# ФОРУМ ВЯЛІКІХ НАДЗЕЙ

10 ліпеня, пасля спецыяльнага пленарнага пасяджэння, на якім выступіў з прамовай, якая прагучала на ўвесь свет, кіраўнік Савецкага ўрада, позна ўжо вечарам распачалі работу чатыры камісіі кангрэса. 11 ліпеня члены камісій разбіліся на падкамісіі. Кожная з іх прадстаўляе з сябе як бы маленькі кангрэс, са 150—200 удзельнікамі.

Работа камісій і падкамісій праходзіць у самай простай абстаноўцы. Выступленні прамоўцаў перакладаюцца сінхронна на 6 моваў — рускую, англійскую, іспанскую, французскую, кітайскую і нямецкую. У кожнага дэлегата, назіральніка, госця — на грудзях вісіць маленькі партатыўны прыёмнік з навушнікам — выраб ленінградцаў. Паваротам пераключальніка можна настроіцца на любую з рабочых моваў кангрэса. (У зале Палаца з'ездаў падобныя апараты ўманціраваны ў крэслы).

Выступленні прамоўцаў ( а іх сёння было літаральна сотні) у камісіях і падкамісіях перш за ўсё паказваюць — якое глыбокае ўражанне на іх зрабіла ўчарашняя прамова Мікіты Сяргеевіча Хрушчова. Можна сказаць, што ў цэнтры ўвагі на кангрэсе знаходзіцца савецкая праграма ўсеагульнага раззбраення, якую кіраўнік Савецкага ўрада яшчэ раз выклаў і яшчэ раз глыбока абгрунтаваў як жыццёвую неабходнасць для чалавецтва.

У першай камісіі («Раззбраенне і яго палітычныя і тэхнічныя праблемы»), якая працуе пад старшынствам французскага прафесара П'ера Бікара, выступіў, напрыклад, член дэлегацыі ЗША прафесар Дж. П. Марэй. Ён прама заявіў: адзіны шлях да міру — гэта прапанаваная Савецкім Саюзам праграма ўсеагульнага і поўнага раззбраення.

Тую ж думку ў сваім выступленні развіваў і прадстаўнік Нарвегіі Карл Баневі. Савецкія прапановы, унесеныя ў Камітэце 18-ці ў Жэневе, заявіў ён, адкрываюць новыя перспектывы ў вырашэнні праблемы ўсеагульнага раззбраення.

Падобных выступленняў было многа, гэтак жа многа, як і выступленняў, у якіх рэзкай крытыцы падвергнулася «схема» раззбраення, прапанаваная ЗША ў Камітэце 18-ці. Асабліва цікавай была прамова савецкага прадстаўніка прафесара Таленскага.

Як вядома, згодна з амерыканскай «схемай», ядзерная зброя знішчаецца не адразу, а этапамі. Прафесар Таленскі, грунтуючыся на даных, якія паведамляў сам міністр абароны ЗША Макнамара, паказаў, што нават праз 6 гадоў пасля прыняцця амерыканскага праекта ў ЗША ўсё ж засталося б 590 міжкантынентальных ракет з атамнымі боегалоўкамі. Гэта — не лічачы 1.600 ракет сярэдняга дзеяння, размешчаных на амерыканскіх базах, што акружаюць Савецкі Саюз. Больш таго, амерыканскі праект прадугледжвае права на... замену часткі ядзернай зброі, якая застанецца пасля яе скарачэння, новай, больш дасканалай.

— Гэта не праект раззбраення, а праект захавання магчымасцей для вядзення татальнай ядзернай вайны, — рэзонна заканчвае савецкі дэлегат.

У выступленнях прамоўцаў, зразумела, закраналася і такая важнейшая праблема сучаснасці, як пытанне мірнага суіснавання дзяржаў з рознымі сацыяльна-палітычнымі сістэмамі.

Дэпутат фінляндскага сейма ад аграрнай партыі Вейка Свінхвуд наконт гэтага заявіў, напрыклад, наступнае:

— Мы на асабістым вопыце пераканаліся ў магчымасці мірнага суіснавання дзвюх дзяржаў з рознымі сістэмамі — СССР і Фінляндыі. На аснове свайго вопыту мы можам сказаць, што такое суіснаванне з'яўляецца добрым і жыццёвым.

Многія дэлегаты кангрэса, і ў прыватнасці, члены першай камісіі, у сваіх выступленнях спыняліся на германскай праблеме. Усіх іх — прадстаўніка Індыі і Польшчы, Балгарыі і Чэхаславакіі, ФРГ і ГДР — асабліва трывожыць тая акалічнасць, што Заходнюю Германію яе правячыя колы паставілі на шлях мілітарызму, што там цяпер з усіх сіл арудуюць былыя гітлераўцы і іншыя рэваншысцкія элементы.

Прафесар Штэйнігер (ГДР), падкрэсліваючы, што германская праблема тоіць у сабе небяспеку для справы міру не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце, праілюстраваў гэта на прыкладах.

У заключэнне свайго выступлення прафесар Штэйнігер унёс на разгляд кангрэса прапанову: правесці па пытанню ўсеагульнага раззбраення рэферэндум сярод усяго чалавецтва.

На пасяджэнні першай камісіі кангрэса ўчора выступіў першы касманаўт чалавецтва Юрый Гагарын. Яго прамова, якая не раз перапынялася апладысментамі, была выслухана з вялізарнай увагай.

«Эканамічныя вынікі раззбраення» — такое кола праблем, што абмяркоўваюцца другой камісіяй кангрэса, якая працуе пад старшынствам вядомага эканамічнага эксперта Аскара Ланге (Польшча).

Тут дыскусія адкрылася выступленнем савецкага эканаміста прафесара Рубінштэйна. Грунтуючыся на эканамічным аналізе, зробленым экспертамі ААН, прамоўца паказаў, што панічныя заявы, якія робяцца на Захадзе, быццам раззбраенне выкліча беспрацоўе, спад эканомікі — гэта злоснае скажэнне фактаў. Праўда, перавод ваеннай вытворчасці на мірныя рэйкі патрабуе часу і падрыхтоўчых мерапрыемстваў. Раззбраенне, адзначае прамоўца, адкрые шлях не толькі да трывалага міру, але і да большага росквіту эканомікі і культуры ўсіх народаў.

Артура Арона (Мексіка) рэзка крытыкаваў праграму «дапамогі» ЗША лацінаамерыканскім краінам, якая носіць назву «саюз дзеля прагрэсу». Амерыканскія манаполіі, гаворыць прамоўца, прама або ўскосна душаць нас. «Дапамога» ЗША —гэта сціскане нашай шыі і вымотванне багаццяў з нашых краін.

Дэлегат Мексікі ўзняў пытанне аб амерыканскім дыктаце, які прымушае многія краіны абмяжоўваць свой гандаль з сацыялістычнымі краінамі.

«Раззбраенне і нацыянальная незалежнасць» — тэма дыскусій трэцяй камісіі кангрэса, старшынёй якой з'яўляецца грамадскі дзеяч Лівана, лаўрэат Ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі» Антуан Табет.

Прафесар Такахасі (Японія) расказаў аб барацьбе японскага народа за раззбраенне, супраць амерыканскіх ваенных баз у Японіі, супраць ядзерных выпрабаванняў. Ядзерныя выпрабаванні ў Ціхім акіяне, і асабліва ўзрыў амерыканцамі ядзернай канструкцыі ў космасе, падкрэсліў ён, гэта — першы крок на шляху да развязвання Злучанымі Штатамі ядзернай вайны. Рашучая барацьба народаў, адзінства іх дзеянняў — гэта сродак дасягнення міру.

Ад імя партугальскіх барацьбітоў за мір выступіў прафесар Антоніо Сараіва. Партугалія,— сказаў прамоўца,—слабаразвітая, бедная краіна. Але ваенная і фінансавая дапамога яе багатых імперыялістычных апекуноў дапамагае правіцелям Партугаліі падтрымліваць жорсткі каланіяльны рэжым, захоўваць сваё панаванне над народамі Анголы.

Прадстаўнікі Індыі і Інданезіі, Ганы і Цэйлона, Мадагаскара і Танганьікі — усе яны гавораць аб неабходнасці канчаткова ліквідаваць каланіялізм.

Чацвёртая камісія кангрэса абмяркоўвае пытанне «Раззбраенне і праблемы права, культуры, маралі». Старшынствуючы Сцюарт Інерст (ЗША) у сваёй уступнай прамове падрабязна спыніўся на крытэрыях маральных законаў.

Амерыканскі дэлегат прапанаваў правесці гадавую праграму па барацьбе з хваробамі і падкрэсліў таксама неабходнасць распрацоўкі праграмы ліквідацыі голаду на зямлі і ліквідацыі непісьменнасці насельніцтва.

Дэлегаты Мадагаскара, Чэхаславакіі, ФРГ гаварылі аб праблемах «халоднай вайны», аб неабходнасці забараніць прапаганду вайны, дабіўшыся адпаведнага юрыдычнага закона. Іншыя выказваліся на тэмы: задачы дзеячоў навукі, роля друку ў барацьбе за мір, супрацоўніцтва майстроў мастацтваў, пісьменнікаў.

Савецкі дэлегат акадэмік А. В. Топчыеў выступіў з паведамленнем на тэму «Амаральны характар вайны». Ён расказаў аб тых разбурэннях, якія прынесла вайна, развязаная нямецка-фашысцкімі захопнікамі, на савецкую зямлю. У СССР было разбурана 1.710 гарадоў і больш чым 70 тысяч сёл. 25 мільёнаў чалавек засталіся без жылля. Агульныя матэрыяльныя страты складаюць астранамічную лічбу—2 трыльёны 569 мільярдаў рублёў (у старым вылічэнні).

Кангрэс працягвае сваю работу. (ТАСС).



«Аб справах калгасных». Дыпломная работа студэнта Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута А. Калюжнага.

# ЦІКАВЫЯ СУСТРЭЧЫ, НЕЗАБЫЎНЫЯ ЎРАЖАННІ

Шлях сёлетніх гастролей беларускіх тэатраў надзвычай цікавы: ад Балтыйскага мора да Волгаграда і квітнеючых гор Прыкарпацця! У гастрольных падарожжах прымаюць удзел усе тэатры за выключэннем купалаўцаў.

Калектыў Беларускага тэатра юнага гледача паказаў свае спектаклі ў Львове. Мы з вялікай цікавасцю наведалі гэты цудоўны горад Савецкай Украіны, які зачароўвае сваёй прыгажосцю — старажытнымі і новымі архітэктурнымі ансамблямі, помнікамі і плошчамі, тэатрамі і музеямі, жывапіснымі курганамі, садамі і кветкамі. Львоў — буйнейшы прамысловы і культурны цэнтр, горад навукі, студэнцтва. Тут жыў і змагаўся за шчасце і свабоду свайго народа выдатны вучоны і пясняр Украіны Іван Франко. Асабліва расквітнеў Львоў пры Савецкай уладзе. Жыхары любяць свой горад і ганарацца ім. Гэта мы адчувалі ў гутарках з нашымі новымі гледачамі, у добрых сяброўскіх усмешках, задушэўных песнях, у якіх паэты, кампазітары і артысты ўслаўляюць творчыя справы народа.

Мы паказалі на гастролях два спектаклі — «На граніцы» В. Белаазёрава і «Над хвалямі Серабранкі» І. Козела. З асаблівым поспехам прайшла наша «Серабранка». Пасля заключнага спектакля, які быў паказаны па тэлебачанню, мы атрымалі шмат сардэчных водгукаў. Льваўчане віталі тэатр, віталі аўтара І. Козела, рэжысёра-пастаноўшчыка Л. Мазалеўскую, а таксама акцёраў за стварэнне жывых, яркіх паэтычных вобразаў сучаснікаў.

Пасля Львова наш калектыў абслугоўваў працоўных калгасаў і саўгасаў Беларусі. Адна група выканаўцаў са спектаклем «Не верце цішыні» ўзяла курс на Навагрудак, Давыд-Гарадок і Пінск, другая — са спектаклем «Дзяўчына з вяснушкамі» — на Мазыр, Рэчыцу, Хойнікі і Нароўлю.

Нашы тэатры цяпер часцей сталі выязджаць у вёску. Лепш сталі афармляць выязныя спектаклі.

І ўсё ж тут яшчэ шмат некранутай «цаліны»... Ёсць у нас не толькі асобныя саўгасы і калгасы, але нават раёны, дзе тэатры бываюць вельмі рэдка. Гастролі творчых калектываў у сельскіх раёнах заслугоўваюць асаблівай увагі, бо яны адыгрываюць высакародную ролю ў эстэтычным выхаванні калгаснікаў. Чула паставіліся да нашых гастроляў грамадскія арганізацыі Мазыра і Рэчыцы. У часе выступлення ў калгасах мы не толькі паказвалі спектаклі, але і гутарылі са сваімі гледачамі, удзельнікамі мастацкай самадзейнасці.

Шчыра прайшла таварыская сустрэча нашых артыстаў з калектывам Рэчыцкага народнага тэатра. Пасля прагляду рэпетыцыі п'есы «Маці сваіх дзяцей» А. Афінагенава разгарнулася дзелавая размова аб рэжысёрскай трактоўцы спектакля, аб рабоце над ролямі самадзейных артыстаў, афармленні і г. д.

Цікавая сустрэча была з мазырскай агітбрыгадай. А хіба можна забыць пра сустрэчы артыстаў з працоўнымі Навагрудскага раёна (у калгасах імя Шчорса, «Радзіма», імя Жданава).

У справе абслугоўвання вёскі спектаклямі ёсць перашкоды і недаробкі. Не ўсе яшчэ калгасныя клубы знаходзяцца ў культурным стане. Побач з сапраўднымі палацамі на 500—700 месц ёсць і такія клубы, у якіх ледзь-ледзь размяшчаецца 150—200 гледачоў. Сустракаюцца сцэны без абсталявання, куліс і нават без заслоны. А ёсць калгасы, у якіх зусім няма клубаў.

Вельмі прыкра і балюча бачыць, што ў такім горадзе, як Рэчыца, вось ужо другі год раённы Дом культуры на замку.

Закончыўшы гастролі па калгасах і саўгасах нашага цудоўнага Палесся, наш тэатр накіроўваецца ў Віцебск. 14 ліпеня спектаклем «Клоп» мы пачынаем паказ сваіх сцэнічных твораў перад віцяблянамі. Пакажам ім «Папараць-кветку» і «Над хвалямі Серабранкі» І. Козела, «Дзяўчыну з вяснушкамі» А. Успенскага, «Не верце цішыні» І. Шамякіна. Піянеры і школьнікі Віцебска ўбачаць вядомую казку Джані Радары «Прыгоды Чыпаліна», спектакль «На граніцы» В. Белаазёрава, чэхаславацкую казку «Казачны домік» М. Стэгліка, п'есу-казку С. Міхалкова «Зайка-зазнайка» для самых маленькіх гледачоў. Мы пакажам віцяблянам прэм'еру «Том — вялікае сэрца» С. Шатрова і С. Багамазава, якая адлюстроўвае старонкі гераічнай барацьбы народаў Афрыкі за сваю свабоду і незалежнасць.

Тэатр будзе выступаць на сцэне Тэатра імя Якуба Коласа і ў рабочых клубах, дамах культуры заводаў і раёнаў Віцебшчыны.

Хочацца выказаць некалькі заўваг пра арганізацыю гастроляў. Ці не лепш было гастролі нашага тэатра ў Віцебску праводзіць у чэрвені, калі працуюць яшчэ школы, а выступленні ў калгасах — у ліпені? Упраўленне па справах мастацтва Міністэрства культуры павінна больш прадумана планаваць гастролі тэатраў.

Час ужо вырашыць пытанне аб перадачы тэатрам па аднаму аўтобусу і грузавой аўтамашыне (я маю на ўвазе мінскія тэатры, бо абласныя маюць свой транспарт). Гэтая патрэба асабліва адчуваецца ў час выступленняў у калгасах і саўгасах. Тэатры Украіны, Латвіі, Літвы маюць свой уласны транспарт.

**Ул. СТЭЛЬМАХ,**
**дырэктар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.**

# Веру ў сілу розуму!

Чым бы ні быў заняты ў тыя гадзіны чалавек,—усё было адкладзена ў бок. Людзі не адыходзілі ад радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў. Прамова Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на Сусветным кангрэсе за ўсеагульнае раззбраенне і мір была звернута да кожнага сумленнага чалавека, да ўсіх, хто хоча жыць, хто хоча радавацца сонцу і ўсміхацца людзям, будаваць, ствараць, упрыгожваць зямлю. Кожнае слова ў гэтай прамове гучала ясна, строга і патрабавальна. Вось наша праграма — канкрэтная і адкрытая: знішчыць смертаносную зброю, гэтае злавеснае параджэнне варожасці і нянавісці, няхай спакойна і свабодна ўздыхнуць, нарэшце, народы.

Што могуць супрацьпаставіць гэтай прапанове заправілы Уол-стрыта? Якія туманныя, блытаныя фармуліроўкі прыдумаюць яны на гэты раз, каб ашукаць пільнасць амерыканскага народа, захаваць за сабой прыемную сэрцу капіталіста магчымасць нажывацца за кошт ваенных заказаў, за кошт гонкі ўзбраення? Няхай палымяныя словы, якія гучаць сёння на кангрэсе, раскрыюць вочы і западуць у сэрца ўсім простым людзям Амерыкі.

«Не! » — атамным выбухам. «Не!» — пагрозе знішчэння роду чалавечага на зямлі. «Не!» — разбурэнню выдатных каштоўнасцей мастацтва і культуры, што вякамі беражліва захоўваюць людзі, захапляючыся геніяльнымі тварэннямі рук чалавека. Гэта голас мільёнаў.

Але пакуль пагроза яшчэ не знікла, пакуль узрываюцца бомбы ў космасе, людзі не могуць спаць спакойна. Трывога жыве ў сэрцы кожнай маці за лёс дзяцей, — і гэтую трывогу з намі падзяляе наш урад, усе сумленныя людзі зямлі. Прамова Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, уся работа кангрэса — лепшы доказ гэтаму. Кангрэс паставіў сабе галоўнай задачай не пагаварыць наогул, а намеціць і вырашыць канкрэтныя шляхі і меры да ўсеагульнага і поўнага раззбраення. І я веру, што сілы розуму перамогуць.

Дэлегаты кангрэса — гэта людзі ўсёй зямлі, мільярды жанчын, мужчын, дзяцей. У тым ліку і я, і кожны з нас.

**Сяргей СЕЛІХАНАЎ,**
**скульптар, заслужаны дзеяч мастацтва БССР.**

# ДАЛУЧЫЦЕ І НАШЫ ГАЛАСЫ!

З Крамлёўскага палаца з'ездаў па ўсёй зямлі разносяцца вялікія палымяныя словы пра мір і шчасце народаў.

Кожнага чалавека, дзе б ён ні жыў — у Афрыцы ці ў Аўстраліі, у Амерыцы ці на Далёкім Усходзе, глыбока хвалююць падзеі апошніх дзён: з аднаго боку—вялікі кангрэс міру, палымяная прамова Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, а з другога — яшчэ адзін ядзерны выбух, быццам знарок зроблены менавіта ў той дзень, калі пачаў сваю работу кангрэс.

Так шчасліва склалася, што ў дні работы Сусветнага кангрэса за ўсеагульнае раззбраенне і мір мне ў ліку групы настаўнікаў з Народнай Польшчы давялося быць на гасціннай савецкай зямлі ў горадзе Мінску. І вось цяпер мы яшчэ раз пераканаліся, якое вялікае ў савецкіх людзей імкненне да мірнага будаўніцтва.

Пішу я гэтыя радкі і міжволі ўяўляю сваю краіну, усё, што блізка майму сэрцу: налітыя коласам нівы, школьную залу, перапоўненую бадзёрай дзятвой. Ведаю: усяму гэтаму — і каласістым нівам, і майму бацьку, заклапочанаму набліжэннем жніва, і вясёлым дзецям, якія прыйдуць у верасні да мяне ў клас, — усім патрэбен мір.

На маёй радзіме ў Польшчы ёсць нямала страшэнных слядоў вайны. Мікіта Сяргеевіч у сваёй прамове ўспамінаў пра крэматорыі Майданека і Асвенціма. Кожны, хто хоць адзін раз сваімі вачыма бачыў гэтыя мясціны, ніколі не забудзе трагедыі мінулай вайны. Няўжо ёсць на свеце людзі, якім хочацца паўтарыць усе гэтыя жахі, якіх гісторыя нічому не навучыла? У гэта цяжка паверыць, але кожны раз, калі слухаеш паведамленні аб мільярдах долараў, якія ідуць на ўзбраенне, аб новых і новых выбухах у космасе, пад зямлёй—яшчэ раз пераконваешся: такія вар'яты ёсць на зямлі. І няхай голас абурэння ўсіх народаў свету, што гучыць сёння ў Крамлёўскім палацы, будзе суровым апошнім папярэджаннем ім, падпальшчыкам новай вайны.

**Уладзімір ПАЎЛЮЧУК,**
**польскі настаўнік.**

# „Мастацтва Беларусі“ № 2

Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў выпусціла на экраны кіначасопіс «Мастацтва Беларусі» № 2. Першы сюжэт яго прысвечаны сустрэчы народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова з юнымі чытачамі на беразе маляўнічага возера Нарач.

Гледачы ўбачаць далей урыўкі з новай п'есы А. Маўзона «Пад адным небам», пастаноўку якой здзейсніў Дзяржаўны рускі тэатр імя М. Горкага.

Кіначасопіс расказвае аб жыцці і працы маладога беларускага мастака В. Грамыкі. Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута ён сам стаў выхоўваць юныя таленты.

Новы падарунак сваім гледачам падрыхтаваў Беларускі рэспубліканскі тэатр лялек. У кінасюжэце «На сцэне — лялькі» (аператар В. Арлоў) паказаны ўрыўкі са спектакля «Князь-возера», які падрыхтаваў маладзёжны калектыў тэатра.

Дзяржаўны народны аркестр Беларускай ССР пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі І. Жыновіча — адзін з папулярных у рэспубліцы. Яго дзейнасць таксама адлюстравана ў часопісе.

# СУД ПАМЯЦІ І СУМЛЕННЯ

...Заслоны няма. Раўнюткая стрэлка дарогі рэзка зламана двума паваротамі. Яны паўтараюцца ў столі — тыя ж імклівасць і вастрыня. Колеры — белы і чорны. Стрыманасць і прыўзнятасць. Прамежкавыя фарбы прыўносяцца толькі святлом: у люмінісцэнцыі небаскробаў і ў плафонах, што вызначаюць са столі месца і рух герояў на сцэнічнай пляцоўцы.

Чалавечая постаць. Павольныя крокі. Погляд, здаецца, пагаспадарску мацае перспектыву — далёкія вочкі небаскробаў, матавыя паўтоны якіх адбіваюцца блакітам на каўняры яго адмысловай сарочкі. Ён нібыта вельмі спакойны. Толькі трывожная мелодыя аднекуль здалёк акампаніруе няроўнаму светлавому рытму плафонаў: яны загараюцца над ім і, калі ён праходзіць, адразу зноў гаснуць.

Моцны акорд. Сустрэча з даўнейшым знаёмым. SOS! Трэба паведаміць свету аб злачынстве, якое мае адбыцца.

Паведаміць — гэта значыць пазбавіцца ўсяго — дабрабыту, становішча і работы. А ўсё гэта нажыта дарагой цаной — нават цаной сумлення.

Чацвёрты... Калісьці ён быў у рэспубліканскай Іспаніі. У часе вайны лятаў радыстам на бамбардзіроўшчыку і быў збіты над Германіяй. Ён не баяўся смерці. А цяпер...

Быць альбо не быць?.. Перад такім пытаннем у душы чалавека за якіх паўгадзіны перагортваюцца старонкі ўсяго жыцця. У віхры ўспамінаў праносяцца твары, падзеі, уласныя ўчынкі. Ідзе барацьба — з мінулым, з сабой, з людзьмі, якіх не так проста выкінуць з памяці.

Быць альбо не быць? Над гэтым пытаннем пакутваў калісьці шэкспіраўскі Гамлет.

Дацкі прынц і журналіст буржуазнай прэсы. Пакуты высакароднай душы і эгаістычная самаабарона нячыстага сумлення. Здавалася б, немагчымая паралель. Але ж яна неадольна паўстае перад намі. Хіба хімеры з камісій па расследаванню, з якімі меў справу Чацвёрты, не нагадваюць сярэдневяковых? Бадай што яны яшчэ страшнейшыя. Ці не з-за іх сучасная варыяцыя Гамлета ў драме К. Сіманава «Чацвёрты» так упарта адстойвае сваё права на «не быць», у той час як рэнесансны герой Шэкспіра ўсёй душой шукаў адваротнага: «быць!».

— Свет расхістаўся. І страшней таго —
Што я прызначан аднавіць яго,

— скардзіўся Гамлет.

— А я, на вялікі жаль, астаўся жывы, каб існаваць у гэтым свеце, які звар'яцеў і ў якім у сто раз цяжэй... — нібы паддаквае яму Чацвёрты. — І я не ведаю, як бы цяпер трымаліся вы, вы... якія былі ў той час на вышыні.

А вось і яны, да каго звернуты гэтыя словы. Так, яны калісьці загінулі. Але хто з іх жывы — ён, Чацвёрты, якога сябры ратавалі цаной сваіх жыццяў, ці гэтыя трое, якія пайшлі на смерць за яго і за іншых?

Раней ён ішоў разам з імі. За волю, за шчасце, за ідэалы. Яны разам змагаліся супраць фашызму. Гэта было не лёгка, але яны перамаглі. Перамаглі, бо не ваганіся. Усё было ясна: вораг ёсць вораг, барацьба — барацьба, здрада ёсць здрада. А вось цяпер, калі свет у краіне змяніўся, змяніліся і разуменні некаторых паняццяў. Ва ўсякім выпадку, так лічыць ён, Чацвёрты. Хіба гэта здрада, так ён разважае, калі перад тварам адказнасці ты не сказаў праўду, а проста змоўчаў? Ці, наадварот, калі трэба было маўчаць, ты сказаў тую «праўду», якая ратуе цябе і ў той жа час губіць блізкага?

Чацвёрты не маўчаў, калі яго выклікалі ў камісію. Дзякуючы яго паказанням, загінула нямала сумленных людзей.

Чацвёрты маўчаў, калі трэба было на ўвесь голас гаварыць свету праўду: пра тое, як у засценках неафашызму гінуць сумленныя людзі, пра тую няпраўду, што затуманьвае чалавечыя розумы. Тут ён маўчаў.

А сёння нельга маўчаць. Нельга! Цемрашалы рыхтуюць дыверсію. Калі паведаміць свету, яе не адбудзецца. Пра гэта ведае ён. Ён павінен ахвяраваць сабою, каб выратаваць мір на зямлі. Але за гады паўпраўды і крывадушша ён развучыўся ахвяраваць. У ім моцны ўмоўны рэфлекс самаабароны. Ён шукае шчылінкі ў сумленні, каб неяк скінуць з сябе адказнасць. Ён не хоча злачынстваў. Але не мае сілы на подзвіг. Хай кожны адказвае за сябе, — гэткі прынцып Чацвёрты бярэ на ўзбраенне самаабароны. Ён хоча скінуць з сябе адказнасць за ўсё— за ідэалы, у імя якіх ён калісьці змагаўся, за будучыню чалавецтва, за тое, за што загінулі трое яго сяброў. Перад тварам подзвігу або злачынства (гэта— альтэрнатыва!) Чацвёрты вагаецца. Ён хоча сцерці ў сваім сумленні мяжу паміж імі. Ён успамінае ўсе свае злачынствы, якія ён не лічыць злачынствамі. Гэтая рэтраспекцыя паўстае перад намі ўвачавідкі, нібы яго ўспаміны — канкрэтная рэчаіснасць.

Уся п'еса «Чацвёрты» К. Сіманава—«маналог», уся яна— матэрыялізаваны рух душы героя, яго размова з уласным сумленнем. Аўтар выбраў гэтую форму, каб у асляпляльным бляску эмацыянальных разрадаў сутыкнуць людзей супрацьлеглых маральна-этычных фармацый.

Па-рознаму можна вырашаць «унутраны маналог» Чацвёртага. Можна акцэнтаваць на той акалічнасці, што ўся карціна сцэнічнага дзеяння—гэта праекцыя размовы героя з уласным сумленнем. Тады ўсё акружэнне Чацвёртага стане нечым накшталт душэўнага «рэха» героя— прытушаным, як фон. Можна (такі варыянт нам здаецца найбольш дзейсным і трапным) забыцца на ўмоўнасць аўтарскага прыёму і перавесці развагі ў непасрэднае ўзаемадзеянне цэнтральнага героя з яго акружэннем. Нарэшце, магчыма таксама спалучэнне абедзвюх гэтых трактовак. Іменна такі шлях выбраў Барыс Эрын — пастаноўшчык «Чацвёртага» ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Чацвёрты — Леанід Рахленка. З тае хвіліны, як Кэт (арт. Г. Таўкачова) пакінула яго самнасам з пякельным пытаннем, мы ўвесь час адчуваем, як роіцца яго думкі, як то замірае, то б'ецца з адчайнаю сілай ягонае сэрца. Ён сканцэнтраваны і засяроджаны. Для яго нічога вакол не існуе. Нават тых, хто з'явіўся па яго выкліку, ён не бачыць увачавідкі: яны існуюць ва ўнутраным позірку героя. Нават, калі надыходзіць пара ўступіць з імі ў непасрэдную гутарку, сам ён, здаецца, нібыта па-ранейшаму застаецца ў крэсле і назірае не толькі іх, але і ўласную постаць, слухае ўласную спрэчку, уласныя апраўданні перад імі.

Трэба аддаць належнае выканаўцу: стварыць ілюзію спалучэння рэальнага з ірэальным— гэта вялікае майстэрства. Дзякуючы намаганням артыста, мы бачым яго героя ў трох вымярэннях: у крэсле — суддзя самому сабе; на пляцоўцы — то абвінавачаны, то адвакат.

Вось, напрыклад, сустрэча з Бэнам Кроу, якога былыя сябры Чацвёртага выклікалі ў якасці сведкі. Усім вядома, што камуніст Бэн Кроу загінуў у турме пасля шчырай гутаркі з Чацвёртым, якая была запісана людзьмі з камісіі па расследванню. Чацвёрты ведаў, што іх размова будзе падслухана. Але ён гаворыць, што напісаў Бэну Кроу запіску. І Бэн не адмаўляе таго.

— Вось бачыце, я кажу праўду, я напісаў яму запіску, — хапаецца, нібы за саломінку, абвінавачаны. І тут жа, звяртаючыся да Бэна, ён становіцца ўжо адвакатам, які мае права допытваць сведкаў:

— Чаму ты не звярнуў на яе ўвагі?

— Хай ведаюць, што сярод тых, хто быў у Іспаніі, не ўсе такія баязліўцы, як муж маёй сястры.

Гэты адказ Бэна Кроу Чацвёрты чуе ўпершыню. Так, ён сёння, перад пытаннем «Быць альбо не быць», упершыню зразумеў, што кіравала ўчынкамі Бэна Кроу. Ён апелюе да справядлівасці: не заўсёды ж і ён быў баязліўцам. Так, не заўсёды. Гэта пасведчыць Штурман. Пацвердзіць і Дзік — першы пілот. Але яны кажуць: «Быў...»

— Што за манера гаварыць пра мяне так, нібыта я мёртвы! Нібыта я памёр, а вы —жывяце!

Гэта ўжо голас суддзі. Ён сам адчуў, што гэтае «быў» — мёртвае перад няўмольным «быць!» І сам асудзіў сябе: так, ён не варты сапраўднага звання жывога, і гэтае асуджэнне выклікае ў душы Чацвёртага пакутлівую інтанацыю пратэсту. Але пратэст — пасіўны. Ён — як роспач. Не здарма яго не заўважае Другі пілот. Прапусціўшы словы Чацвёртага міма вушэй (рэмарка аўтара), ён таксама сцвярджае: «Так, ён калісьці не быў баязліўцам».

Тры вымярэнні — суддзя, адвакат і падсудны — жывуць у душы Чацвёртага—Л. Рахленкі на працягу ўсяго спектакля. Іх суадносіны на розных этапах унутранага маналогу розныя. Спачатку да першага адыходу «тройкі» са сцэны (месца, дзе даецца антракт) пераважае адвакат, абаронца. Але абарона не вытрымлівае націску праўды, бо маладушнасць і здрада не маюць сабе апраўданняў.

— Я не хачу больш апраўдвацца перад вамі,— ледзь не крычыць нарэшце Чацвёрты. — Я раскажу вам усё, што ляжыць на маім сумленні. Я раскажу нават тое, пра што я забараніў сам сабе ўспамінаць.

З гэтага часу Чацвёрты — падсудны. Шчыра і пакаянна ён раскрывае вытокі свайго падзення. Ён здрадзіў Гвічардзі — аднаму з сяброў ваеннага часу. Здрадзіў жанчыне, якую вельмі любіў, але з якой разышоўся. Быў маладушным перад жанчынай, якую зусім не любіў, але з якою ажаніўся. Астатняе нам вядома...

І вось, нарэшце, у абліччы Чацвёртага пераважае суддзя. Уся сцэна ўцёкаў з лагера ваеннапалонных—гэта яго маналог.

Аўтар супрацьпаставіў сённяшнюю крывадушнасць героя мінуламу, калі ён быў мужным і быў гатовы загінуць разам з іншымі. З гэтага маналогу вынікае прысуд, з якім Чацвёрты згаджаецца:

— Няхай будзе так. На гэты раз я пайду разам з імі чацвёртым.

Чацвёрты—артыст Л. Рахленка.

— Ты не баішся? — пытае Кэт.

— Я баюся, але няхай будзе так.

Цяжкай хадою, нібы адчуваючы вялізарную ношу, ідзе ён насустрач подзвігу. Ці дойдзе Чацвёрты? Тэатр, як і аўтар, не дае катэгарычнага адказу на пытанне. Аднак і рэжысёр, і мастак А. Грыгар'янц спадзяюцца, што дойдзе: яны ўпершыню запалілі пад столлю ўсе плафоны, асвятліўшы Чацвёртаму шлях. Так завяршаецца суд сумлення.

Судзіў Чацвёртага сам Чацвёрты. Але на «працэсе» ў якасці абвінаваўцаў ён выклікаў са сваёй памяці ранейшых сяброў — Дзіка, Штурмана, і Другога пілота. Ім ён абавязаны жыццём. Яны — узор мужнасці, прынцыповасці, самаадданасці. Ён хоча ўзгадніць з імі свае рашэнні.

